*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2019, № 4(38). Красавік

## Слонімскія гандбалісткі, 1930 год



Гэты здымак быў апублікаваны ў папулярным варшаўскім ілюстраваным спартыўным штотыднёвіку "Стадыён" ("Stadjon", 1930, № 31, 31 ліпеня. С. 5). У подпісе паведамлялася, што перад намі каманды газены падчас спартыўнага свята ў Слоніме. Газена — гэта варыянт жаночага гандболу ў першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Найхутчэй фота было зроблена на новым гарадскім стадыёне (ён існаваў на тэрыторыі паміж цяперашнімі вуліцамі Шасейная, 17 верасня і Даватара), які ў 1930-м яшчэ дабудоўваўся.

●Сяргей Ёрш

## Яфім Шыфрын — пра бацьку і Слонім

У канцы красавіка вядомы расійскі артыст Яфім Шыфрын у інтэрв'ю на папулярным YouTube-канале *вДудь* распавёў пра лёс свайго бацькі. Залман Шмуілавіч Шыфрын (1910 — 1995) нарадзіўся ў Дрыбіне на Магілёўшчыне. Ён працаваў бухгалтарам у Оршы. У 1938-м быў арыштаваны савецкімі карнымі органамі. Залмана Шыфрына асудзілі на 10 гадоў зняволення як "польскага шпіёна". Вызвалілі ў 1948-м, рэабілітавалі ў 1956 годзе.




*Працяг на ст. 17*

ХРОНІКА

## Ідзе праца над помнікам Льву Сапегу




Пасля таго, як у пачатку красавіка рэспубліканскі мастацкі экспертны савет зацвердзіў мадэль помніка Льву Сапегу ў маштабе 1:4, пачаўся выраб макета ў натуральную велічыню. Над ім працуюць Іван Міско, Уладзімір Піпін і Сяргей Логвін. Да канца вясны яго таксама мусяць зацвердзіць, пасля чаго пачнецца адліўка помніка з бронзы. У чэрвені пачнецца падрыхтоўка падмурку пад гранітны пастамент, вышыня якога складзе каля метра. Паколькі скульптура Сапегі будзе крыху больш за тры метры, вышыня помніка разам з пастаментам складзе 4,1 метра, паведамляе “Гродзенская праўда”.

## Гістарычная мазаіка Слонімшчыны




У мінскім выдавецтве “Кнігазбор” выйшла новая кніга краязнаўцы Сяргея Чыгрына. “Гістарычная мазаіка Слонімшчыны” — гэта багата ілюстраваны зборнік артыкулаў, прысвечаных гісторыі нашага краю. Кнігу можна знайсці ў слонімскай кнігарні на Першамайскай і ў раённым краязнаўчым музеі.

## Васіль Герасімчык — лаўрэат прэміі імя Багушэвіча

Слонімскі гісторык Васіль Герасімчык, які жыве ў Гродне, стаў лаўрэатам прэміі імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-цэнтра. Яна прысуджаецца за выдатную гістарычную прозу, якая спрыяе абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларусаў. Была адзначана кніга Герасімчыка “Кастусь Каліноўскі: Асоба і легенда” (Гродна, 2018).

Віншуем земляка з заслужанай ацэнкай яго творчасці!




*Фота — Facebook*

# Зноў пра Тэатральную плошчу

2 красавіка тапанімічная камісія Слонімскага райвыканкама разгледзела прапанову аб перайменаванні плошчы Леніна ў Тэатральную плошчу. І вырашыла нічога не мяняць. Чаму? Таму што на сайце раённай газеты "Слонімскі веснік" прайшло апытанне, і 56,8% яго ўдзельнікаў выказаліся супраць перайменавання. А яшчэ супраць выказаліся 100% жыхароў дамоў і кіраўнікоў арганізацый, якія знаходзяцца на плошчы. Можна ў гэта ўсё паверыць? Чыноўнікі засведчылі дакументальна, сваімі подпісамі. Для гісторыі гэтыя дакументы захаваем, змяшчаем іх у "СК" (шкада, што няма звестак пра склад тапанімічнай камісіі).

Але ўзнікае пытанне, куды ж чыноўнікі так спяшаліся? Навошта было такое важнае пытанне вырашаць за два тыдні? Пры ўсёй павазе да "Слонімскага весніка", наколькі папулярным у слонімцаў можна лічыць яго сайт, дзе праводзілася трохдзённае апытанне? А яшчэ ж ёсць людзі, якія не давяраюць агучаным вынікам. Такім чынам часовая перамога Леніна зусім "не элегантная". Пра традыцыйнае слонімскае галасаванне напісалі нават цэнтральныя СМІ. І гэта зусім не на карысць пазітыўнаму іміджу нашага горада напярэдадні свята.

*"Тэатральнай плошчы ў Слоніме не будзе"* — песімістычна піша "Газета Слонімская". Чаму не будзе? Будзе! Нават калі ў бліжэйшыя месяцы нічога не зменіцца, Тэатральная плошча з'явіцца праз 5, 10, 15 гадоў. Але навошта чакаць? Ніхто не можа забараніць слонімцам ужо цяпер неафіцыйна называць плошчу Тэатральнай.

●Сяргей Ёрш




СЛОНІМСКІ РАЁННЫ САВЕТ ДЭПУТАТАЎ

вул. Чырвонаармейская, 40,
231800, г. Слонім, Гродзенская вобласць
тэл. (01562) 2 17 24, факс 2 32 08
эл. пошта: sovet.slonim@grobllsp.gov.by

СЛОНИМСКИЙ РАЙОННЫЙ СОВЕТ ДЕПУТАТОВ

ул. Красноармейская, 40,
231800, г. Слоним, Гродненская область
тел. (01562) 2 17 24, факс 2 32 08
эл. почта: sovet.slonim@grobllsp.gov.by

01.04.2019 № 05-01/2
На № ____________ ад ____________

Масюку А.К.

(для азнаямлення зацікаўленных)

Адказ на зварот

Паважаны Алесь Канстанцінавіч!

Слонімскі раённы Савет дэпутатаў на Ваш зварот ад 18.03.2019 паведамляе, што Ваша прапанова была разгледжана на пасяджэнні тапанімічнай камісіі Слонімскага раённага выканаўчага камітэта 02.04.2019 г. Улічваючы вынікі анлайн-апытання, якое праведзена газетай "Слонімскі веснік", камісіяй было прынята рашэнне аб немэтазгоднасці змены назвы плошчы Леніна на Тэатральную. Дадаткова паведамляем, што супраць змены назвы выказаліся і жыхары навакольных дамоў.

У выпадку нязгоды з вынікам разгляду звароту Вы маеце права абскардзіць яго ў судовым парадку.

Старшыня [подпіс] А.М.Таргонскі

*Вось такі адказ Алесь Масюк атрымаў са Слонімскага раённага савета дэпутатаў. Наступны дакумент — на ст. 4*

# Зноў пра Тэатральную плошчу

*Працяг, пачатак на ст. 3*



**СЛОНІМСКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ**

кул. Чырвонаармейская, 40,
231800, г. Слонім, Гродзенская вобласць
тэл. (01562) 5 03 11, факс 5 09 67
эл. пошта: slonim-ispolkom@mail.grodno.by

**СЛОНИМСКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ**

ул. Красноармейская, 40,
231800, г. Слоним, Гродненская область
тел. (01562) 5 03 11, факс 5 09 67
эл. почта: slonim-ispolkom@mail.grodno.by

02.04.2019 № 02-05/ 1001-03

На № ________ ад ________

Масюку А.К.

г.Слонім
(для азнаямлення зацікаўленных)

Паважаны Алесь Канстанцінавіч!

Слонімскі раённы выканаўчы камітэт (далей – райвыканкам) паведамляе, што Ваш зварот разгледжаны.

Прапанова наконт перайменавання плошчы Леніна ў Тэатральную была разгледжана на пасяджэнні тапанімічнай камісіі райвыканкама 02.04.2019. Напярэдадні на сайце газеты "Слонімскі веснік" было праведзена апытанне, у якім прынялі ўдзел 7563 рэспандэнты. Вынікі апытання паказалі, што за перайменаванне плошчы Леніна ў Тэатральную выказаліся 3270 (43,2%) рэспандэнтаў, пакінуць без змянення – 4293 (56,8%) рэспандэнтаў. Таксама апытанне уласнікаў жылля і кіраўнікоў арганізацый, якія знаходзяцца па адрасе плошчы Леніна паказала, што 16 (100%) з апытаных выказаліся пакінуць без змянення назву плошчы.

На падставе вышэйпералічанага і вынікаў галасавання членаў камісіі,тапанімічная камісія райвыканкама прыйшла да высновы – назву плошчы Леніна ў горадзе Слоніме заставіць без змянення.

У выпадку нязгоды з вынікам разгляду звароту Вы маеце права абскардзіць яго ў Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт.

Намеснік старшыні К.Я.Руткоўская

# Шляхамі Ордаў



*Сям'я Мікульскіх, маёнтак Літва Слонімскага павета, 1928 г.*
*Фотаздымак з сямейнага альбома Яна Х'юберта Стэцкага*

*Працяг, пачатак у № 2, 3, 2019 г.*

## Род Эвеліны Мікульскай

У сям'і Пятра і Эвеліны Ордаў нарадзіліся дзеці: Адам, Леанціна, Іосіф і Уладзімір. Пра трэцяга сына Уладзіміра няма аніякіх звестак, Магчыма, што ён памёр яшчэ немаўляткам. Эвеліна Міхайлаўна Орда памерла 29 кастрычніка 1851 года дзесьці ва ўзросце 36 гадоў. Менавіта тады Пётр Апалінар'евіч задумаў будаўніцтва мураванай радавой капліцы ў памяць пра памерлую жонку. 9 верасня 1852-га ён атрымаў дазвол ад Гродзенскага генерал-губернатара аб пераносе цела сваёй жонкі Эвеліны са слонімскіх могілак, а 29 кастрычніка 1852 года ксяндзом быў праведзены абрад асвяшчэння капліцы і перапахавання цела жонкі Орды.

Спасылаючыся на тое, што ў вёсцы на той момант каталікоў было ўсяго дзве сям'і, а астатнія ўсе праваслаўныя, Літоўская духоўная кансісторыя распачала судовае разбіральніцтва аб незаконным будаўніцтве каталіцкага храма на тэрыторыі Слонімскага праваслаўнага прыходу, а Слонімскі благачынны прратаіерэй Іосіф Салаўевіч прасіў Гродзенскае праўленне пачаць судовае следства аб незаконным будаўніцтве каталіцкага храма ў маёнтку Дзеравянчыцы Пятра Орды.

Хто ж такая Эвеліна Орда? Асабістая перапіска з прафесарам Акадэміі навук Польшчы Янам Х'юбертам Стэцкім, праўнукам Філарэнцiя Мікульскага, дазволіла мне даведацца больш пра род Мікульскіх. У сямейным архіве Стэцкіх захоўваецца матэрыял пра гэты род герба САС з XVI стагоддзя. У 1692 годзе Ян Марцінавіч Мікульскі атрымаў ад свайго дзеда Васіля Андрэя Войніча Мікульскага маёнтак Мікулічы ў Навагрудскім павеце. У XVIII стагоддзі радавым гняздом сям'і Міхаіла і Юзэфы Мікульскіх быў маёнтак Вязавец (сёння вёска ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці). Напачатку XIX стагоддзя род Мікульскіх ўжо валодаў у Слонімскім павеце маёнткам Старыя Жыровічы, у склад якога ўваходзілі вёскі Заверша (паводле інвентара 1846 года — 16 двароў; 163 жыхары), Загор'е (10 двароў, 102 жыхары), Залессе

*Працяг на ст. 6*

# Шляхамі Ордаў

*Працяг, пачатак на ст.5*

(24 двары, 211 жыхароў), Літва, Андрэева і Міронім.

Стацкі дарадца Пётр Апалінар’евіч Орда быў уладальнікам маёнтка Дзеравянчыцы, у склад якога ўваходзілі вёскі Бракава, Новае Сяло і фальварак Скоўдзічы. Ён быў жанаты на Эвеліне Міхайлаўне Мікульскай, дачцэ Міхаіла Мікульскага і Юзэфы Валовіч. У сваіх мемуарах “Мае ўспаміны. Напісана ў Масалянах (1842-1892)” Ян Біспінг піша пра сям’ю Мікульскіх так: *“У Вязаўцу тры сыны і чатыры дачкі былі выхаваны самым дбайным чынам: Іосіф, Аляксандр і Ісідар, Тэадора, пазней — Аскерка, Эвеліна, якая стала Орда, Юлія, якая стала Валовіч, мая бабуля, і самая маладая Соф’я, пазней — Абрамовіч. З такой вялікай колькасцю адукаваных дачок, здольных да навук, гэта была рэдкасць і гонар сям’і, калі розумам сваім яны шчодра ўпрыгожылі род”.*

Праца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродна дала магчымасць зазірнуць у мінулае нашай слонімскай зямлі. Казённыя землі Глоўсевіцкага войтаўства з 1809 года арандаваў старадубскі правадыр дваранства Ян Тадэвуш Біспінг — найбагацейшы магнат Ваўкавыскага павета. Ён ажаніўся на Ганне Мікульскай, сястры Эвеліны Орды. Канцылярыя Гродзенскага губернатара распачала 6 чэрвеня 1818 года на 217 лістах справу аб адмове казённых сялян Глоўсевіцкага войтаўства плаціць падаткі. Галеча, голад, здзекі арандатара выклікалі ў тым годзе ў вёсцы Глоўсевічы сялянскае хваляванне, пра якое данеслі Віленскаму генерал-губернатару і ўвялі ў вёску вайскоўцаў.



*Страчаная спадчына Слонімшчыны, маёнтак Літва, 1928 -1939 гг. Фотаздымак з сямейнага альбома Яна Х’юберта Стэцкага*

Мемуары Яна Біспінга “Мае ўспаміны. Напісана ў Масалянах (1842-1892)” дазволілі мне глыбей даведацца пра братоў Эвеліны Орды. Ісідар і Іосіф Мікульскія атрымалі адукацыю ў Віленскім універсітэце, дзе глыбей зразумелі сваю адказнасць за лёс дзяржавы, пранікліся любоўю да беларускай гісторыі. Як сапраўдныя патрыёты сваёй зямлі, яны прымалі актыўны ўдзел у паўстанні 1830-1831 гадоў на Слонімшчыне. Падчас паўстання ў корпусе генерала Дэзідэрыя Хлапоўскага ў Слонімскім павеце разам з братамі Мікульскімі ваяваў і Ігнат (Ігнацій) Дамейка. У 1908 годзе пад рэдакцыяй Іосіфа Трэцяка выйшла кніга “Дзённік Ігнацыя Дамейкі (1831-1838)”. Дамейка ўспамінае пра сваіх суседзяў Мікульскіх. Па рашэнні Гродзенскай губернскай следчай камісіі ад 8 студзеня 1832 года браты Мікульскія былі аднесены да другога разраду злачынцаў. Нерухомасць іх была канфіскавана. Яны эмігрыравалі ў Парыж. У 1839 годзе Ісідар Мікульскі працаваў прадстаўніком банка А. Ельскага ў Бруселі і ў банку “Kredit Foncier”, адным з заснавальнікаў якога быў Ксаверы Браніцкі, уладальнік замка Манрэзор ў Францыі. У Парыжы браты з іншымі эмігрантамі актыўна ўдзельнічалі ў дзейнасці Таварыства літоўскіх і рускіх зямель пад кіраўніцтвам Цэзара Плятэра, Гісторыка-літаратурным таварыстве, Польскім клубе, Польскім народным камітэце.

Сын Ісідара, прадзед Яна Х’юберта Стэцкага, уладальнік маёнтка Старыя Жыровічы, Філарэнцій Мікульскі, ажаніўся з графіняй Ганнай Моль. Другі сын, уладальнік маёнтка Стары Здзітаў Пружанскага павету, Стэфан Мікульскі, быў прэзідэнтам Другога дэпартамента Слонімскага гродскага суда і ажаніўся з баранэсай Марыяй Фелькерзамб, якая разарвала шлюб з Казімірам Валовічам. Праўнучка Ісідара Мікульскага, Леанціна Влодэк, стала жонкай Францішка Ксаверыя Пуслоўскага.

Надзвычай цікавай постаццю ў гісторыі роду з'яўляецца ўнучка Ганны Мікульскай, Наталля Ганна Біспінг, вядомая пісьменніца, мастачка, гісторык. Яна сябравала з паэтам і гісторыкам Юльянам Урсынам Нямцэвічам, паэтам Эдвардам Адынцом, кампазітарам Фрыдэрыкам Шапэнам.

## Герой Крымскай вайны

У гістарычным нарысе "Рымска-каталіцкая царква ў Беларусі (другая палова XIX — пачатак XX стст.)" А. Ганчар піша, што 10 лістапада 1904 года памешчык Іосіф Пятровіч Арда падаў гродзенскаму губернатару прашэнне аб дазволе здзяйсняць ў капліцы жалобныя набажэнствы ў дні гадавіны пахаваных там яго сваякоў: бацькі, стацкага дарадца Пятра Апалінар'евіча Орды (памёр 30 лістапада 1870 года), маці — Эвеліны Міхайлаўны Орды (памерла 29 кастрычніка 1851 года), брата — генерал-лейтэнанта Адама Пятровіча Орды (заслужанага прафесара Інжынернай акадэміі, былога абаронцы г. Севастопаля, узнагароджанага ордэнам святога Георгія IV ступені, памёр 3 жніўня 1896 года), і цёткі — Фёклы Апалінар'еўны Орды (памерла 3 чэрвеня 1865 года).

У "Ваеннай энцыклапедыі за 1911-1915 гады" пад рэдакцыяй В. Навіцкага ёсць артыкул пра Адама Пятровіча Орду — генерала, героя Крымскай вайны 1853-1856 гадоў, ваеннага інжынера, пісьменніка, навукоўца, выкладчыка фартыфікацыі і міннага мастацтва, заслужанага прафесара Мікалаеўскай інжынернай ваеннай акадэміі, Георгіеўскага кавалера.

Столькі тытулаў і ўзнагарод!




*Генерал Адам Пятровіч Орда, герой Крымскай вайны. Фотаздымак з сямейнага альбома Х'юберта і Марыі Клер Дэнармандзі*

Не верылася, што малой радзімай такога героя была вёска Дзеравянчыцы. Сумненне дабаўляў той факт, што месцам нараджэння была запісана Мінская губерня. Але Орды здаўна валодалі землямі ў Пінскім павеце, які адносіўся да Мінскай губерні. Каб пазбавіцца сумненняў, я вырашыла напісаць ліст у Францыю да прапраўнука Напалеона Орды, Х'юберта Дэнармандзі і яго жонкі Марыі Клер. Даследаванне роду Эвеліны Мікульскай, якое вяду не адзін год, дапамагло мне суаднесці ўсе факты пра яе сына Адама Пятровіча Орду, калі я адправіла свой першы ліст у Францыю. Мае здагадкі пацвердзіліся.

У 1850 годзе 15-гадовы Адам паступіў у Санкт-Пецярбург у кандуктарскую роту Галоўнага інжынернага вучылішча, якое знаходзілася ў адной з царскіх рэзідэнцый ў Міхайлаўскім замку. У ваеннае вучылішча

# Шляхамі Ордаў

*Працяг, пачатак на ст. 5-7*

прымаліся юнакі з дваранскіх сем’яў ад 14-18 гадоў, але, каб паступіць, трэба было мець выдатную падрыхтоўку: уступныя экзамены здавалі па арыфметыцы, алгебры, геаграфіі, французскай ці нямецкай мовах, гісторыі, рускай граматыцы, маляванні і асновах геаметрыі.

Здаўшы паспяхова экзамены, выдатнік вучобы Адам Орда старанна вывучаў у ваенным вучылішчы фартыфікацыю, чарчэнне, архітэктуру, вышэйшую матэматыку, тапаграфію, хімію, механіку, ваенную гісторыю, чыгуначныя дарогі, мінералогію, фартыфікацыйныя і будаўнічыя праекты.

А 13 жніўня 1853 года юнкер Адам Орда за выдатную вучобу быў пераведзены ў афіцэрскі клас, але не паспеў завяршыць навучанне, паколькі ішла Крымская вайна і ў траўні 1855 года малады 20-гадовы афіцэр быў прызначаны ў 6-ы сапёрны батальён у Севастопаль.

У сваёй кнізе “Нашы родныя волаты. Сапёры ў Севастопалі, 1862 г.” Адам Орда піша: *“Калі службоўца вяртаўся з доўгай службы дадому, распавядаў землякам сваім пра справы вайсковыя, пра паходы, пра ваенныя бітвы — усе яго слухаюць у цішыні. Моладзь перастае шаптацца, малыя дзеці маўчаць і нават сталыя людзі стрымліваюць свой старэчы кашаль і ўздыхі. Ніхто не хоча перашкаджаць. Слухаюць уважліва і з павагаю...”.*

А расказаць Адаму па прыезду ў родныя Дзеравянчыцы пра ваенныя падзеі было што. І слухаў яго бацька Пётр Апалінар’евіч, выціраючы слёзы, горды за свайго сына. Шкадаваў толькі аб адным, што маці Адама не дажыла да таго дня, не ўбачыла, якім героем ён прыехаў у бацькоўскі дом.

Адам Орда з нястомнай энергіяй працаваў па начах, пад моцным агнём непрыяцеля, выпраўляючы пашкоджанні ў валах і бліндажах, будаваў другую абарончую лінію Малахава кургана. У гэты час ён быў ужо адрэзаны французамі. Убачыўшы параненага ў жывот лейтэнанта, разам з афіцэрам ён стаў пераносіць яго, але, калі ў бліндаж трапілі два ядра і салдаты былі паранены, а ўсе патроны скончыліся, прыйшлося здацца у палон. Пасля ўзяцця ў палон, французскі інжынер генерал Фрасард запатрабаваў ад Орды пад пагрозай расстрэлу паказаць, дзе закладзены міны пад бастыёнам Карнілава. Адам Орда не выканаў гэтага патрабавання, хаця і ведаў размяшчэнне мін. Вярнуўшыся праз пяць месяцаў з палону ў батальён, Пётр Орда ўдзельнічаў у будаўніцтве абарончых умацаванняў на Паўднёвым Бузе і ў Мікалаеве.

У 1856 годзе Адам Пятровіч Орда быў узнагароджаны ардэнамі св. Уладзіміра і св. Георгія 4-й ступені. Паступіў у Мікалаеўскую інжынерную акадэмію, скончыў яе з адзнакай ваенным інжынерам. У 1860 годзе ён атрымаў ордэн св. Станіслава 2-й ступені, а ў 1868-м быў прызначаны выкладчыкам фартыфікацыі ў Мікалаеўскую інжынерную акадэмію, чытаў лекцыі па міннаму мастацтву і прымяненню палявой фартыфікацыі на мясцовасці, выкладаў гісторыю аблогі Севастопаля. У 1873 годзе быў ўзнагароджаны ордэнам св. Ганны 2-й ступені, а ў 1876 годзе — св. Уладзіміра 3-й ступені. У 1877 годзе абраны прафесарам, а 15 траўня 1883 года ўзведзены ў генерал-маёры. Пачаў ваенна-літаратурную дзейнасць, удзельнічаў у апісанні абароны Севастопаля пад кіраўніцтвам рускага генерала Татлебена. Адамам Пятровічам Ордам было напісана шмат падручнікаў па ваеннай справе. У 1886 годзе ён быў узнагароджаны ордэнам св. Станіслава 1-й ступені. У 1888-м у Адама Пятровіча Орды пагоршылася здароўе, і ён павінен быў пакінуць службу. Памёр у кастрычніку 1897 года ў Фінляндыі, у маёнтку Мерэкюле.

*Працяг у наступным нумары*

●Святлана Брайчук,
г.Слонім

ХРОНІКА

## У Слоніме ўзнагародзяць лаўрэатаў літаратурнай прэміі

1 верасня падчас Дня пісьменства і друку ў Слоніме ўзнагародзяць пераможцаў рэспубліканскага конкурсу “Нацыянальная літаратурная прэмія”. На яе прэтэндуюць дзясяткі пісьменнікаў з усёй краіны. У большасці намінацый прэмія складзе 2550 рублёў.

●ГГ

# Фотаздымкі з альбома сланімчанкі Веры Падковіч



*Дзяўчаты, якія навучаліся на курсах шыцця. Фотаздымак быў зроблены слонімскім фатографам Дзерачынскім у Слоніме ў 1939 годзе*

Сланімчанцы Веры Падковіч ужо 93 гады. Жыве яна адна. Так склаўся лёс, што жанчына ніколі не была замужам. Праўда, кавалераў у маладосці хапала. Але не выйшла, хаця не адчувае сябе адзінокай і сёння, бо мае шмат родных і блізкіх людзей. Працавала ў райкаме камсамола, у гаркаме партыі, а пайшла на заслужаны адпачынак з пасады начальніцы аддзела кадраў Слонімскай фабрыкі мастацкіх вырабаў.

З Верай Падковіч можна гутарыць бясконца пра яе пражытыя гады. Успамінаць мінулае і людзей, сяброў і землякоў яна любіць шчыра і адкрыта. У яе аднапакаёвай кватэры даволі чыста і ўтульна. Жанчына шмат чытае, глядзіць па тэлевізары розныя перадачы, яе наведваюць пляменнікі і старэйшыя слонімцы, якіх яна ведае.

Вера Іосіфаўна захоўвае некалькі фотаальбомаў. Адзін з іх ёй падарылі за *“паспяховае распаўсюджванне савецкага*

*Працяг на ст. 10*



*Вера Падковіч*

# Фотаздымкі з альбома сланімчанкі Веры Падковіч

*Працяг, пачатак на ст. 9.*

*друку ў 1961 годзе”.* У гэтым альбоме Вера Іосіфаўна змясціла шмат цікавых і рэдкіх здымкаў 1930-х—1950-х гадоў. Некаторыя з іх сланімчанка дазволіла апублікаваць у “Слонімскім краі”. Бяда толькі ў тым, што многія з іх непадпісаны, таму невядома, хто на здымках і калі яны былі зроблены. Тым не менш здымкі рэдкія і на іх адлюстраваны слонімцы першай паловы XX стагоддзя. Амаль усе друкуюцца ўпершыню.

●Сяргей Чыгрын



*Настаўнік з вучнямі 7 класа адной са школ Слоніма, 1939 год*



*Вера Падковіч (злева) з сябрамі ў Слоніме, 1950 год*



*Юныя сланімчанкі, 1939 год*

# Фотаздымкі з альбома сланімчанкі Веры Падковіч

*Слонімскія прыгажуні,*
*8 сакавіка 1941 года*

*Работніцы тэкстыльнай фабрыкі на беразе Шчары, лета 1941 года*

# Фотаздымкі з альбома сланімчанкі Веры Падковіч



*Слонімцы,*
*красавік 1947 года*
*Другая злева стаіць*
*Вера Падковіч*

# Фотаздымкі з альбома сланімчанкі Веры Падковіч

*У дзень адкрыцця піянерскага лагеру ў Палонцы, 24 чэрвеня 1951 года*




*Сябры Веры Падковіч,*
*г. Слонім, 1955 год*

# Справа 1847 года: Платон Кукальнік, Слонім і скрадзены лес

У студзені 1847 года Гродзенскае губернскае праўленне распачало справу на групу службовых асоб са Слонімшчыны. Падставай стала незаконная высечка "казённага лесу". У злоўжыванні падазравалі кіраўніка (дзейнага ці ўжо былога) Слонімскай эканоміі (дзяржаўнага ўладання) калежскага асесара Платона Кукальніка, былых эканомаў Пятра Афанасьева і Івана Немчыноўскага, старэйшага ляснічага Восіпа Гіршвельда, акруговага ляснічага Камінскага, падляснічага Івана Кавалеўскага, а таксама былога віцэ-губернатара Гродзенскай казённай палаты барона Пятра Таўбэ. Які аб'ём лесу быў высечаны і колькі гэта працягвалася, невядома.

Улады спадзяваліся спагнаць з удзельнікаў высечкі лесу вялізную кампенсацыю — 30721,5 рубля срэбрам і 11912 рублёў асігнацыямі (пра гэтую справу праінфармавалі нават расійскага імператара). Для параўнання — у 1846 годзе на прыстанях на Шчары было наладавана тавараў (а сярод іх і лесу) на 185945 рублёў срэбрам.[1] Ва Украіне ў Дзяржаўным архіве Чаркаскай вобласці ў фондзе мясцовай гарадской думы захоўваецца цікавы дакумент — распараджэнне Кіеўскага губернскага праўлення ад красавіка 1847 года "Пра пошук маёнткаў і капіталаў, якія належаць Калежскаму Асесару Платону Кукальніку і інш.".[2] У дакуменце адзначаецца, што ў Кіеве атрымалі ліст з Гродзенскага губернскага праўлення, таму і заняліся гэтай справай. Яе вынік нам пакуль невядомы. З пералічаных асобаў удалося знайсці звесткі толькі пра Кукальніка.



*Платон Кукальнік. Партрэт захоўваецца ў Трацьякоўскай галерэі ў Маскве*

Платон Кукальнік (1804 — 1848) — сын навукоўца і педагога Васіля Кукальніка, брат літаратара Нестара Кукальніка і гісторыка, паэта, цэнзара Паўла Кукальніка. Звычайна Платона прадстаўляюць як педагога. Ён вучыўся ў Пецярбургу, выкладаў і служыў у Нежыне, Вільні. Пра тое, што ён быў калежскім асесарам, у даступных артыкулах (у тым ліку і ў Вікіпедыі) інфармацыі няма.

Аднак зазірнем у першакрыніцы. Яго брат Нестар пісаў: *"Платон Васільевіч Кукальнік, калежскі асесар…".* [3] Значыць, памылкі тут няма. Як жа педагог стаў калежскім асесарам, грамадзянскім чыноўнікам, якому адпавядала вайсковае званне маёра? *"Тры гады ён заставаўся па-за службай, але з прызначэннем Мікалая Мікалаевіча Навасільцава старшынём Дзяржаўнага Савета і Камітэта Міністраў у 1835 годзе, брат Платон зноў паступіў на службу і быў пры Навасільцаве для занятку па справах Царства Польскага",* — сведчыць Нестар Кукальнік.[4] Вядома, што Навасільцаў быў

МИНИСТЕРСТВО
ВНУТРЕННИХЪ ДѢЛЪ.

КІЕВСКАГО ГУБЕРНСКАГО
ПРАВЛЕНІЯ.

СТОЛЪ ГАЗЕТНЫЙ.

1847 года.

№

О розысканіи имѣній и капиталовъ, принадлежащихъ Коллежскому Ассесору Платону Кукольнику и проч.

Циркулярно.

Гродненское Губернское Правленіе, отношеніемъ отъ 31-го минувшаго Января проситъ учинить распоряженіе о розысканіи имѣній и капиталовъ, принадлежащихъ управлявшему Слонимскою экономіею Коллежскому Ассесору Платону Кукольнику, бывшимъ экономамъ Ивану Немчиновскому и Петру Афонасьеву, старшему лѣсничему Осипу Гиршвельду, окружному лѣсничему Каминскому, подлѣсничему Ивану Ковалевскому и бывшему Вице-Губернатору Гродненской Казенной Палаты Петру Барону Таубе и взысканіи съ оныхъ согласно Высочайшему повелѣнію за порубку Слоним-

*“заступнікам сям’і Кукальнікаў”.*[5] Такі ўплывовы чалавек і мог арганізаваць згаданы грамадзянскі чын для свайго фактычна сакратара.

Брат піша, што Платон адмовіўся ад службы ў 1838-м па стане здароўя.[6] А можа ўсё ж з-за таго, што ў тым годзе памёр граф Навасільцаў і ён застаўся без “заступніка”? А яшчэ ж мы не ведаем, якія даручэнні выконваў Платон Кукальнік...

Да таго, як Платон у 1848-м памёр у Пецярбургу ад халеры, ён *“вымушаны быў займацца прыватнымі справамі, якія патрабавалі не толькі ўзмоцненай працы, але і працяглых раз’ездаў”.*[7] Неяк вельмі туманна акрэслівае заняткі брата Нестар Кукальнік. Пра працу ў Слоніме нічога не згадвае. Зусім магчыма, з-за скандальнай гісторыі з лесам. Але як Платон мог трапіць у Слонім? Магчыма, меў нейкія сувязі яшчэ з часу працы на Мікалая Навасільцава.



Гэта той самы Навасільцаў, які “засвяціўся” ў нашым горадзе, займаў былы палац Агінскага, пабудаваў суконную фабрыку. Магчыма, за яго маёмасцю ў Слоніме і прыглядваў “педагог” Платон Васільевіч Кукальнік.

●Генадзь Гурскі


*[1] Арсеньев К. Статистическіе очерки России. — Санкт-Петербургъ, 1848. С. 303*

*[2] Ф. 8, воп. 1, спр. 216; http://forum.vgd.ru/45/47679/390.htm?a=stdforum_view&o=*

*[3] Гимназія высшихъ наукъ и лицей князя Безбородко. Изданіе второе. — Санкт-Петербург, 1881. С. 267.*

*[4] Тамсама. С. 268.*

*[5] Кубасов И. Кукольникъ, Платонъ Васильевичъ // Русскій біографическій словарь. Т. 9. — С.-Петербургъ, 1903. С. 538.*

*[6] Гимназія высшихъ наукъ и лицей князя Безбородко. С. 268.*

*[7] Тамсама.*

# Знакамітыя палякі Слонімшчыны

Так склаўся і складваецца лёс, што многія знакамітыя людзі нашай слонімскай зямлі служылі і служаць іншым народам, краінам. І ў гэтым няма бяды, а наадварот, радуе тое, што яны адсюль родам, што яны — нашы, што пра іх ведаюць і ведалі ў тых краінах, дзе яны жылі. І хоць даўно іх няма на гэтым свеце, духоўна яны былі і ёсць часцінкаю нашай зямлі, на якой нарадзіліся і ўзраслі.

Сёння хочацца прыгадаць некаторых знакамітых палякаў, для якіх радзімай з'яўляецца наша слонімская зямля.

Польскі пісьменнік Крыштаф Завіша (1666 — 1721) нарадзіўся на Слонімшчыне ў шляхетнай сям'і. Скончыў Віленскую і Кракаўскую акадэміі. Быў мінскім ваяводаю. Прымаў удзел у мірных перамовах паміж Маскоўскай дзяржаваю і Рэччу Паспалітай. Аўтар прамоваў на сеймах, напісаў "Успаміны", якія выйшлі ў Варшаве ў 1862 годзе.

Самуіл Гіршорн (1876 — 1942) быў яўрэем, але пісаў толькі па-польску. Нарадзіўся ён у Слоніме ў дробнай мяшчанскай сям'і. У маладым узросце пераехаў у Варшаву,


Юльян Корсак

дзе скончыў гандлёвую школу. У 20 — 30-я гады XX стагоддзя рэдагаваў польскія газеты, у якіх друкаваў свае вершы і публіцыстычныя артыкулы. Быў дэпутатам сейма Польшчы. Аўтар польскамоўнай "Анталогіі яўрэйскай паэзіі" (Варшава, 1921 год).

Польскі журналіст і педагог Міхал Канарскі (1784 — 1661) нарадзіўся ў Слоніме. Вучыўся ў Жыровіцкай школе базыльянаў, скончыў Віленскі універсітэт. Жыў у Вільні, Пецярбургу і ў Адэсе. У Вільні ствараў інсцэніроўкі для мясцовых тэатральных труп, перарабляў вядомыя п'есы. У Пецярбурзе выдаваў газету на польскай мове "Баламут", а ў Адэсе займаўся дабрачыннай дзейнасцю. Ахвяраваў грошы на пабудову касцёлаў, школ і бальніц.

Родам са Слоніма быў вядомы польскі паэт і перакладчык Юльян Корсак (1806 — 1855). Скончыў Віленскі універсітэт. Абіраўся старшынёй Слонімскага павятовага гранічнага суда. Выдаў кнігі "Вершы", "Новыя вершы". Перакладаў на польскую мову творы Д. Байрана, І. Гётэ, Гарацыя, Ф. Шылера, Дантэ.

Польскі мастак Фларыян Пякарскі* (1868 — 1919) нарадзіўся ў Слоніме. Скончыў мастацкую школу Герсана ў Варшаве, а таксама акадэмію мастацтваў у Кракаве. Удзельнічаў у многіх выставах Варшаўскага таварыства згуртавання мастакоў. Перад Першай сусветнай вайной шмат падарожнічаў па Еўропе і наладжваў выставы сваіх карцін. У 1914 годзе ён арганізаваў сваю выставу ў Вільні, наведаў родны горад. Цяпер творы нашага земляка захоўваюцца ў галерэях


Крыштаф Завіша

Вільні, Варшавы і Львова.

Польскі кінарэжысёр Збігнеў Хмялеўскі** (1926 — 2009) нарадзіўся ў Слоніме. У Лодзі скончыў Вышэйшую школу кіно. Працаваў кінарэжысёрам на студыі "Згуртаванне вытворцаў фільмаў" і на студыі тэлефільмаў "Палітэль". Паставіў мастацкія фільмы "Твар анёла", " Шлюбная аб'ява", тэлесерыялы "След на зямлі", "Блізка, штораз бліжэй", 12-серыйны фільм "Сям'я Кандэраў" і іншыя.

Сацыёлаг, публіцыст і


Збігнеў Хмялеўскі


Мікалай Казакевіч

палітык Мікалай Казакевіч (1923 — 1998) нарадзіўся ў Альбярціне. Пасля вайны сям'я пераехала ў Польшчу. Казакевіч там скончыў Варшаўскі універсітэт. Стаў доктарам навук, прафесарам. Выдаў шмат кніг па сацыялогіі, адукацыі, выхаванні. У 1988-1991 гадах быў маршалкам Сейма Польшчы.

●Сяргей Чыгрын

**Гл.: Гурскі Г. Фларыян Пякарскі // Слонімскі край, 2018, № 1(23). Студзень. С. 16.*
***Гл.: Гурскі Г. Збігнеў Хмялеўскі // Слонімскі край, 2017, № 1(11). Студзень. С. 16.*

КНІГАРНЯ

# Вялікі том пра Алега Лойку

У Мінску выйшаў з друку вялікі том артыкулаў і ўспамінаў пра нашага земляка беларускага паэта, вучонага і педагога Алега Лойку (1931 — 2008) — "Чалавек з сонечнаю ўсмешкай". Складальнікам выдання з'яўляецца доктар філалагічных навук прафесар Алесь Бельскі.

Кніга складаецца з чатырох частак. У першую частку "Грані творчай асобы" ўвайшлі артыкулы беларускіх пісьменнікаў і навукоўцаў пра творчасць Алега Лойкі. Пра лірыку кахання, пра імпрэсіяністычнасць яго лірыкі, пра пераклады, пра займальнае і сакральнае, пра Лойкавы Скрыжалі і шмат-шмат іншага разважаюць розныя аўтары.

Другі раздзел кнігі складаецца з успамінаў пра Алега Лойку. У трэцюю частку кнігі ўвайшлі паэтычныя прысвячэнні славутаму прафесару. Іх напісалі былыя яго студэнты, а таксама тыя паэты, якія з ім сябравалі і добра ведалі Алега Антонавіча.

Чацвёртая частка парадуе чытачоў невядомымі раней вершамі Алега Лойкі. У кнізе




таксама змешчана шмат здымкаў.

Алег Лойка пакінуў светлы і незабыўны след у памяці шматлікіх студэнтаў філфака БДУ, быў і застаецца ўзорам выдатнага нацыянальнага інтэлігента, палымянага патрыёта і грамадзяніна Беларусі. Першая прэзентацыя кнігі пра Алега Лойку адбудзецца на філфаку Белдзяржуніверсітэта напачатку траўня.

●Сяргей Чыгрын

# Яфім Шыфрын — пра бацьку і Слонім

*Працяг, пачатак на ст. 1*

Яфім Шыфрын кажа, што бацька быў "сціплым бухгалтарам" і "апалітычным чалавекам". Яго абвінавацілі ў "шпіянажы на карысць Польшчы". *"Але ён і слова па-польску не ведаў!* — кажа артыст. — *Яго неміласэрна білі, спрабуючы звязаць яго неяк з Бундам* [яўрэйскай сацыялістычнай партыяй]. *Што ён праз маці нейкага бундаўца ў Сланіме… Слоніме (як ён называецца?!), перадаваў нейкія*



*шпіёнскія звесткі ў Польшчу. Якія звесткі? Бухгалтар быў нейкай канторы!.. Што можна было перадаць тады звычайнаму чалавеку туды, асабліва ў Польшчу?... Краіна была прасякнутая шпіёнаманіяй да вар'яцтва".*

Такім чынам у крымінальнай справе Залмана Шыфрына згадваюцца Слонім і слонімцы.

●Сяргей Ёрш

СЛОНІМСКІЯ КРАЯЗНАЎЦЫ

# Жыў гісторыяй і краязнаўствам

Калі праязджаю каля Народнага музея СШ № 4 у Слоніме, мне заўсёды прыгадваецца Аляксандр Сямёнавіч Жукоўскі — заслужаны работнік культуры Беларусі, педагог, гісторык і краязнавец, заснавальнік гэтага музея. Ён быў і назаўсёды застаўся ў маёй памяці апантаным, пунктуальным, адданым энтузіястам сваёй справы. Такіх людзей у Слоніме сёння няма.

Я яго бачыў і сустракаўся з ім у Слоніме амаль штодня. Ён заўсёды з папкаю ў руках кудысьці спяшаўся, найперш да мясцовых чыноўнікаў, каб нешта ім паказаць, прапанаваць, папрасіць. Не часта яны слухалі Аляксандра Сямёнавіча, але ён не адступаў — заўсёды настырна, нават надакучліва стаяў на сваім і дабіваўся таго, чаго хацеў, што задумаў. І ўдача яму спрыяла. Я маю на ўвазе ўдачу на ніве слонімскага краязнаўства, у дзейнасці ім створанага Народнага музея СШ № 4 г.Слоніма, сёння Народнага музея імя А. С. Жукоўскага. У СШ № 4 ён спачатку займаў увесь трэці паверх школы, а цяпер музей месціцца ў асобным будынку, агульнай плошчай 300 кв. м. У фондах музея сёння захоўваецца звыш 6 тысяч унікальных экспанатаў, сабраных Аляксандрам Жукоўскім. Найбольш экспанатаў, прысвечаных Другой сусветнай вайне. Ёсць шмат дакументаў 1920-1930-х гадоў, скульптурныя партрэты, творы жывапісу вядомых беларускіх мастакоў, асобныя адзінкі зброі, узнагароды, франтавыя лісты, фотаздымкі, альбомы і г. д.



*Аляксандр Жукоўскі з вучнямі СШ № 4 Вадзімам Крупнікам і Аленай Слуцкай, 1980-я гады*

Экспазіцыі школьнага музея сёння складаюцца з наступных раздзелаў. Гэта раздзелы — "Наш край у 1914-1920 гадах", "Слонімшчына пад уладай Польшчы ў 1920-1939 гг.", "Сацыяльныя пераўтварэнні на Слонімшчыне (1939-1941гг.)", "Наш край у гады Другой сусветнай вайны", "Слонімшчына сёння", "Выпускнікі СШ № 4". Па ўсіх гэтых раздзелах, дзякуючы найперш Аляксандру Жукоўскаму, сабраны вельмі багатыя і цікавыя матэрыялы. Дарэчы, у бліжэйшы час у музеі плануюць адкрыць яшчэ новую залу з экспанатамі.

У 1992 годзе я папрасіў Аляксандра Сямёнавіча напісаць для мяне сваю біяграфію. Ён спачатку адмаўляўся, маўляў, "не люблю пісаць аўтабіяграфій", але потым неахвотна пагадзіўся і праз некалькі дзён мне яе прынёс, надрукаваную на пішучай машынцы. Гэта біяграфія захоўваецца ў мяне да сённяшніх дзён. З яе я даведаўся, што не так проста і лёгка складваўся жыццёвы лёс Аляксандра Жукоўскага.

Нарадзіўся ён у беларускай сям'і, якая, як і тысячы беларусаў, на пачатку Першай сусветнай вайны была эвакуіравана ў глыб Расіі. Сям'я Жукоўскіх апынулася аж у Арэнбургу, дзе іх напаткала вялікае гора. Там памерлі маці, два браты і сястра. Бацька Аляксандра Жукоўскага Сямён Мікалаевіч дамоў у родную вёску Ашнаравічы на Слонімшчыну вярнуўся з маленькім Сашам і са сваёй маці. Сашу Жукоўскаму тады было ўсяго 6 месяцаў. Але бацька хутка зноў ажаніўся, і ў Сашы з гадамі з'явілася яшчэ 5 братоў і сясцёр.

Першым і галоўным настаўнікам Сашы Жукоўскага быў ягоны бацька — сельскі шавец, якога ў Ашнаравічах і ў навакольных вёсках добра ведалі, як дасціпнага чалавека і выдатнага майстра. Ён

вельмі хацеў, каб сын атрымаў адукацыю. Таму спачатку хлопчык скончыў сямікласную польскую школу ў вёсцы Дзераўная, а потым, параіўшыся са сваім настаўнікам Стэфанам Іванашкам, здаў уступныя экзамены ў польскую дзяржаўную гімназію імя Т. Касцюшкі № 922 у Слоніме. Паколькі плаціць за навучанне Жукоўскаму не было чым, Стэфан Іванашка дапамог яму за дзяржаўны кошт паступіць у гімназію № 5 Ю. Панятоўскага ў Варшаву. Туды і паехаў вучыцца беларускі юнак. Там правучыўся да пачатку Другой сусветнай вайны і ў канцы 1939 года вярнуўся ў Слонім. Калі прыехаў на радзіму, паступіў у Першую беларускую сярэднюю школу, якую закончыў паскораным тэмпам, бо датэрмінова здаў усе экзамены.

Падчас вайны Аляксандр Жукоўскі жыў з бацькамі ў Ашнаравічах. Працаваў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Дзераўная. Вайна вайной, а дзяцей вучыць трэба было. Што і рабіў малады беларускі настаўнік.

Пасля вайны ўсё сваё жыццё звязаў з педагогікай. Ён скончыў гістарычны факультэт Баранавіцкага дзяржаўнага беларускага педагагічнага інстытута, працаваў загадчыкам Ашнаравіцкай пачатковай школы, потым — Ёцавіцкай, Горкаўскай школ на Дзятлаўшчыне, намеснікам дырэктара і дырэктарам Вішаўскай школы, потым — дырэктарам Чамяроўскай васьмігадовай школы на Слонімшчыне і г. д.

У вёсцы Чамяры напачатку 1960-х гадоў Аляксандр Жукоўскі пачаў збіраць першыя звесткі пра гісторыю роднага краю. А аднойчы ў школу ён запрасіў усіх вяскоўцаў і выступіў з дзіўнай па тых часах прапановай адкрыць у Чамярах музей. Некаторыя нават на смех яго падняўлі: хіба няма больш важнай справы, чым музей… Але Аляксандру Жукоўскаму ўдалося зацікавіць людзей і хутка ў Чамяроўскай школе адкрыўся краязнаўчы куток, а потым музей, які праз пэўны час стаў народным. На жаль, даўно ў Чамярах няма школы і слядоў не засталося ад таго музея. І куды ж падзеліся ўсе экспанаты?.. Старыя чамяроўцы пра гэта нічога не ведаюць.

У 1964 годзе Аляксандр Жукоўскі стаў працаваць настаўнікам гісторыі ў СШ № 4 г. Слоніма. Але і тут ён займаўся не толькі педагогікай, але і краязнаўчай, музейнай справай. Створаны ім музей у СШ № 4 г.Слоніма да сённяшніх дзён лічыцца адным з найлепшых школьных музеяў рэспублікі. Выключная працавітасць, выдатная памяць, талент даследчыка, прынцыповасць, настойлівасць і неардынарнасць думкі дамагалі яму да апошніх дзён жыцця вясці пошукавыя і даследчыя працы па ўзнаўленню гераічнага мінулага Слонімшчыны.

Акрамя гэтага, Аляксандр Жукоўскі на працягу ўсяго свайго жыцця шмат пісаў і друкаваў сваіх артыкулаў па гісторыі, краязнаўстве і педагогіцы. У 1971 годзе (другое выданне выйшла ў 1973 годзе) выдавецтва "Народная асвета" выпусціла ў свет ягоную кнігу "Школьны музей рэвалюцыйнай і баявой славы", дзе аўтар абагульніў свой багаты вопыт па зборы матэрыялаў і арганізацыі школьнага музея, цікава распавёў пра разнастайную працу юных краязнаўцаў, пра тое, як трэба выкарыстоўваць матэрыялы музея ў вучэбнай і выхаваўчай рабоце ў школе і па-за школай. А ў 1990 годзе ў Гродне выйшла яго невялікая кніжачка "Назаві яго імем", прысвечаная героям Другой сусветнай вайны.

Дзякуючы Аляксандру Сямёнавічу Жукоўскаму, савету яго музея ўдалося ўстанавіць 55 прозвішчаў савецкіх воінаў, якія загінулі падчас вайны на тэрыторыі Беларусі. На тэрыторыі школы ў гонар удзельнікаў баёў за Слонім у гады Другой сусветнай вайны быў адкрыты памятны абеліск…

Пры жыцці Аляксандр Жукоўскі быў узнагароджаны шматлікімі нагруднымі знакамі, медалямі, граматамі, у тым ліку і граматай Савета міністраў СССР. У 1990 годзе яму было прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларусі. Але, на жаль, хадайнічалі ў гэтым не слонімскія чыноўнікі, а зусім іншыя людзі. У Слоніме такіх асоб, як Аляксандр Жукоўскі, не ўмелі і не ўмеюць пры жыцці і пасля жыцця ўшаноўваць і шанаваць.

І апошняе. Аляксандр Жукоўскі шмат пісаў, публікаваўся ў розных часопісах і газетах. Даўно варта было б сабраць яго лепшыя артыкулы ў адну кнігу і выдаць асобным выданнем.

●Сяргей Чыгрын

# Слонімская кнігарня Абрамовіча

У сваёй хатняй бібліятэцы захоўваю невялікую кніжачку на польскай мове “Кароткая гісторыя Новага часу паводле найноўшых падручнікаў школьных”, якую апрацаваў прафесар Антоні Валецкі. Гэта старое выданне 1930-х гадоў знаходзілася ў асабістай бібліятэцы беларускага спявака Міхася Забэйды-Суміцкага (1900-1981) у Празе. Некалькі гадоў назад кніжку даслаў мне паэт Сяргей Панізьнік. І даслаў яе невыпадкова. На кніжцы стаіць штамп на польскай мове “Кнігарня Абрамовіча. Слонім. Міцкевіча, 1, прыватны дом”. Гэтым кніжка для нас, слонімцаў, і цікавая. Значыць, да вайны ў Слоніме была кнігарня Абрамовіча, дзе і прадавалася гэта выданне. Магчыма, у Слоніме і набыў слынны спявак сабе гэту кніжку, бо ён некалькі разоў бываў у нашым горадзе і нават выступаў на сцэне Народнага дома, дзе цяпер знаходзіцца будынак драматычнага тэатра.

●Сяргей Чыгрын




ХРОНІКА

# 400 старых фотаздымкаў і паштовак

У мінулым нумары “СК” мы згадвалі пра дзве кнігі пра Слонімшчыну, якія рыхтуюцца да друку да свята — Дня беларускага пісьменства.* Ад вядомага беларускага калекцыянера, лаўрэата прэміі “За духоўнае адраджэнне” Уладзіміра Ліхадзедава даведаліся, што ён з’яўляецца аўтарам адной з іх. Найхутчэй гаворка ідзе пра кнігу “Слонім. Падарожжа ў часе”. Па словах Ліхадзедава, у ёй будзе *“прыкладна 400 старых фотаздымкаў і паштовак, магчыма і больш”*.

Чакаем яе з нецярпеннем. Зусім магчыма, што ў кнізе Ліхадзедава будуць нечаканыя для нас знаходкі.

●Сяргей Ёрш



**Новыя выданні, прысвечаныя Слонімшчыне // Слонімскі край, 2019, № 3(37). Сакавік. С. 2.*

“Слонімскі край” — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару
Сяргей Чыгрын

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com
Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.